**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 50 (818) 10 снежня 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



ISSN 2077-8023







6 снежня ў Доме культуры ў Радзюках адбылася вечарына, прысвечаная творчасці Людмілы Ардынскай, якая з'яўляецца нашым сталым аўтарам. Рэпартаж з вечарыны чытайце ў наступным нумары нашай газеты.
На здымку: выступае аматарскае аб'яднанне "Душэўная ўтульнасць" Шаркаўшчынскага раённага Дома культуры.
*Фота Змітра Лупача.*



## МНС інфармуе
**на 7.12.2015 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 790;
Гібель людзей – 88, з іх 3 дзяцей;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 31;
Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма;
Урон – 591,1 млн. руб.

Ушацкі раён

# Каб памяталі нашчадкі

■ Станіслаў Раманчук.

**Кожны народ толькі тады мае будучыню, калі добра ведае і шануе сваё мінулае і спрадвечныя карані.**

Вось чаму, нягледзячы на эканамічныя цяжкасці, ва Ушацкім раёне да наступлення халадоў удалося пасяховa правесці першы этап рэканструкцыі мемарыяльнага комплексу "Прарыў". Гэты ўнікальны помнік, адкрыты больш 40 гадоў назад, не толькі буйнейшы на Віцебшчыне, ён прысвечаны адной з трох самых буйных бітваў у тыле ворага падчас ІІ Сусветнай вайны. Дзве з іх адбываліся летам 1943 года ў Югаславіі, а на нашай зямлі вясной наступнага года вырваліся са смяртэльнай пасткі з вялікімі стратамі адразу 16 партызанскіх брыгад. Сёлета работы па аднаўленню мемарыялу ўключылі ў абласную інвестыцыйную праграму, іх курыраваў да сваёй раптоўнай смерці былы старшыня аблсавета дэпутатаў А. Ацсаў. Быў зроблены патрэбны праект, больш 1,3 млрд. рублёў пайшло на частковы дэмантаж і замену металічных каркасаў двух вялізных бетонных глыб, праз якія раней штогод больш 10 тысяч чалавек накіроўваліся да цэнтральнай велічнай бронзавай фігуры партызана. Цяпер спецыялісты пацвярджаюць, што небяспекі іх абрушэння больш няма, паколькі дадаткова вырабілі адсекі, якія ўзмацняюць трываласць канструкцыі і служаць вентыляцыяй. Работу абласнога штаба па рэканструкцыі мемарыялу ўзначаліў непасрэдна глава вобласці Мікалай Шарстнёў. У наступным годзе па плану рэстаўрацыі адновяць 7-метровы помнік партызану, правядуць патрэбныя мерапрыемствы па добраўпарадкаванню, азеляненню і сучаснай падсветкі велічнага помніка.

Пастаўскі раён

# Талент, падмацаваны працай

■ Кастусь Александровіч

**Сёлета ў вобласці шырока і годна адзначылі 85-гадовы юбілей славутага земляка, класіка беларускай літаратуры Уладзіміра Караткевіча.**

У абласным цэнтры да яго помніка дзеячы культуры ўсклалі днямі шмат кветак, успаміны пра літаратара, урыўкі з яго твораў гучалі потым і ў абласной бібліятэцы, дзе прайшла штогадовая цырымонія ўзнагароджання лаўрэатаў абласной літаратурнай прэміі імя У. Караткевіча за 2015 год, заснаванай аблвыканкамам. За некалькі гадоў такія ўзнагароды атрымалі 22 творцы з розных куткоў Прыдзвіння. На гэты раз у намінацыі "проза" прэмію ўручылі настаўніку Пастаўскай гімназіі, сябру Саюза беларускіх пісьменнікаў Ігару Пракаповічу. Такім чынам, была адзначана яго вялізная праца за ўнікальную кнігу-падручнік "Чароўны край – Пастаўшчына", своеасаблівы гімн роднаму краю, напісаны на цудоўнай беларускай мове. Гэты добра праілюстраваны твор з'явіўся невыпадкова, бо 55-гадовы таленавіты настаўнік з'яўляецца членам вучонага савета Беларускага геаграфічнага таварыства, ён выдаў каля сарака краязнаўчых кніг, вучэбных праграм, зборнікаў вершаў і навукова-педагагічных прац. Ён адкрыў таксама месца старажытнага паселішча каля возера Саранчаны і курганны могільнік побач з вёскай Міхаліна. Ігар Міхайлавіч таксама плённа кіруе дзейнасцю райарганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, піша аўтарскія песні, з якіх 12 запісаны і гучалі па Беларускаму і мясцоваму радыё. Новы лаўрэат працуе пераважна ў жанры паэзіі, але таксама і шмат з моладдзю, арганізаваў і ўзначаліў літаратурны пленэр-семінар "Даўжанскія вечары".

Сенненскі раён

# Забойца – тонкі лёд

■ Чэслаў Якубовіч.

**Звычайна штогод найбольш бывае ахвяр на вадаёмах краіны ў невыносную спёку, аднак і халодны перыяд года – таксама вельмі небяспечны, асабліва, калі людзі грэбуюць элементарнымі мерамі ўласнай бяспекі.**

Каб было меней такіх трагедый на лёдзе, сёлета з 1 снежня паўсюдна ў Віцебскай вобласці ўведзена забарона на выхад на лёд, пакуль яго таўшчыня не дасягне 7 см. Як паказвае практыка, такая мера – цалкам апраўданая, бо асобныя суайчыннікі дарэмна рызыкуюць і провальваюцца ў сцюдзёную ваду. Вось і ў Сенненскім раёне напрыканцы восені вадалазы паблізу ад берага каля вёскі Ходцы дасталі труп 53-гадовага мясцовага мужчыны. Яго родныя напярэдадні занепакоіліся, калі вясковец некуды прапаў, а ў адпаведныя службы патэлефанавалі, калі падчас пошукаў на лёдзе ўбачылі шапку зніклага. У гэтым здарэнні яшчэ трэба будзе разабрацца, бо ніхто не бачыў, калі мужчына пайшоў з дому і чаго яго пацягнула на тонкі лёд. Магчыма, ён адправіўся туды вечарам у цемры, альбо захацеў такім чынам зрэзаць сабе дарогу, бо рыбалоўных прылад нідзе не было знойдзена. На жаль, таўшчыня лёднага покрыва ў гэтым месцы не перавышала 3 см, і на слаба прамерзшы вадаём нельга было ступаць. У любым выпадку, лепш не рызыкаваць, як летась гэта зрабіў жыхар Браслаўшчыны, які паехаў па возеру на веласіпедзе, праваліўся пад лёд і неўзабаве таксама загінуў.

Аб самым надзённым

# ЯШЧЭ ДОЎГА І БЕЛАРУСЫ БУДУЦЬ РАСХЛЁБВАЦЬ КАШУ, "ЗАВАРАНУЮ" КРАМЛЁЎСКІМ КІРАЎНІЦТВАМ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Горкая праўда для нас яшчэ у тым, што ранейшай падтрымкі Беларусі з боку Расіі ўжо не будзе, рускім бы свае шматлікія цяжкасці і растучую ізаляцыю ў свеце пераадолець. У такой вось сітуацыі беларусам прыйдзецца самім вырашаць узнікшыя эканамічныя праблемы**

Напрыканцы сёлетняй восені ў жыцці беларусаў адбылося адразу некалькі важных і таксама нечаканых падзей. Многіх суайчыннікаў парадавала, што паміж Беларуссю і Ізраілем пачаў, нарэшце, дзейнічаць рэжым узаемных безвізавых паездак. Хоць на святой зямлі па-ранейшаму бывае неспакойна з-за фанатыкаў-ісламістаў, але там жыве нямала былых нашых грамадзян, а галоўнае, што там размешчаны галоўныя хрысціянскія святыні, і куды імкнуцца патрапіць пабываць нашы вернікі. Для амаль палловы беларускіх мужчын, якія кураць, зноў у пачатку зімы падаражэлі цыгарэты. У канцы года, як правіла, актывізуюцца беларуска-расійскія кантакты на высокім узроўні, бо прыходзіць пара падпісваць дакументы аб аб'ёмах паставак газу-нафты на наступны год, дамаўляцца аб цэнах на закупляемыя энерганосьбіты.

Глава дзяржавы А. Лукашэнка таксама 25-26 лістапада збіраўся пабываць у белакаменнай расійскай сталіцы з афіцыйным візітам, абмеркаваць важнейшыя пытанні супрацоўніцтва, размяшчэння авіябазы, а асноўнае, ці атрымае наша краіна вельмі патрэбны крэдыт на 2016 год ад Еўразійскага фонда, які кантраліруецца Расіяй. Як вядома, гэту маскоўскую сустрэчу нечакана перанеслі, бо Крэмль і саміх расіян шакіраваў факт знішчэння ў паветры іх ваеннага самалёта-бамбардзіроўшчыка Су-24 ля турэцка-сірыйскай граніцы. Цікава ведаць, авіятэхніка такога тыпу ўжо састарэлая, нават у беларускай арміі ад такіх старых самалётаў адмовіліся, знялі з узбраення, а вось рускія працягваюць мадэрнізіраваць іх і прымяняць у баявых дзеяннях.

Невыпадкова гаспадару галоўнага крамлёўскага службовага кабінета стала зусім не да сустрэчы са сваім мінскім калегай, паколькі настрой у яго быў вельмі кепскі некалькі дзён запар. А канчаткова збіў спесь з дагэтуль вельмі самаўпэўненага гаспадара бяскрайніх расійскіх прастораў, па яго ных словах, "удар у спіну", альбо ваенны інцыдэнт з самалётам, збітым Турцыяй. Гэта краіна, па разліках расійскага кіраўніцтва, павінна была стаць надзейным партнёрам і сябрам РФ, аднак павяла сябе агрэсіўна, не пабаялася паставіць на месца моцную ў ваенным плане дзяржаву і адначасова прадэманстравала ўсяму свету, што рускія пазіцыі не такія ўжо і трывалыя.

У сваю чаргу дзяржавычлены блока НАТО адразу ж падтрымалі туркаў з нагоды гэтага вострага канфлікту на грані вайны. А вось нібыта ваенныя саюзнікі Масквы з арганізацыі АДКБ, уключаючы нашу Беларусь, з такімі заявамі падтрымкі не спяшаліся і мелі, на мой погляд, рацыю. Шчыра кажучы, колькі ўжо разоў дагэтуль рускія ваенныя самалёты ў розных кутках Еўропы дэманстравалі сваё хуліганства, бо маглі ўварвацца ў паветраную прастору дзяржаў ЕС, а з туркамі яны таксама асабліва не лічыліся, разоў 10 парушалі ў паветры іх граніцы, за што ўрэшце рэшт іх і пакаралі. Сапраўды, паводзіны Расіі і асабліва іх дзеячаў-ястрабаў на міжнароднай арэне ды і ўнутры сваёй краіны апошнім часам здзіўляюць і насцярожваюць.

Вакол сваіх граніц на ўсходзе Беларусі мы маем непрадказальнага суседа. Нават паважаны рускі спецыяліст, доктар эканамічных навук, дырэктар расійскага Цэнтра даследванняў постіндустрыяльнага грамадства Уладзіслаў Іназемцаў чэсна папярэдзіў: " для независимости Беларуси опасна глубокая интеграция в российскую экономику, поскольку непредсказуемость российской политики очевидна… а политические противоречия между Минском и Москвой могут привести как к торговым или газовым войнам, так и к чему-то худшему. ... России в её сегодняшнем виде нужно серьёзно опасаться."

Да гэтых выказванняў варта прыслухацца, а нам нарэшце пара ўсвядоміць, што нялёгкія часы ў нас насталі і не хутка скончацца ў першую чаргу па віне тых, хто летась заклікаў "мачыць укропаў", захапіў сілай Крым, а потым папёр у Данбас, зараз увязаўся ў чарговую несправядлівую вайну ў ахопленай масавым горам Сірыі. З гэтай нагоды і санкцый у адказ, па разліках дасведчаных спецыялістаў, даволі балючыя і для беларусаў эканамічны крызіс у Расіі прадоўжыцца мінімум 3-4 гады. У нашых суседзяў і асноўных гандлёвых партнёраў чакаецца цэлая хваля банкротстваў у эканоміцы, сур'ёзныя банкаўскія праблемы, беспрацоўе ўжо ў 2016 вырасце да 7%, а гэта мільёны людзей.

На расійскіх прасторах пра простых людзей з даўніх часоў ніхто не думаў і пра іх не клапаціўся. Цяпер, пра што не скажуць на ілжывых расійскіх тэлеканалах, там дажыліся да таго, што не могуць атрымаць своечасова патрэбныя льготныя медыкаменты сотні тысяч дыябетыкаў, іншых цяжка хворых пацыентаў. Аднак такіх адурманеных прапагандай расіян калі і шкада, але і зразумець цяжка, паколькі рэйтынг падтрымкі былога гэбісцкага палкоўніка Пуціна аж зашкальвае ў раёне пад 90%. Горкая праўда для нас яшчэ у тым, што ранейшай падтрымкі Беларусі з боку Расіі ўжо не будзе, рускім бы свае шматлікія цяжкасці і растучую ізаляцыю ў свеце пераадолець. У такой вось сітуацыі беларусам прыйдзецца самім вырашаць узнікшыя эканамічныя праблемы, а вось наступаючы неўзабаве 2016 год можа прымусіць канчаткова спыніць сваю дзейнасць многіх тысяч прадпрымальнікаў, якія гандлявалі на рынках таварамі лёгкай прамысловасці.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 10.12.15 | | | | Пятніца 11.12.15 | | | | Субота 12.12.15 | | | | Нядзеля 13.12.15 | | | | Пан. 14.12. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +1 | +2 | +3 | +2 | +1 | 0 | +1 | 0 | 0 | 0 | 0 | +1 | +1 | +2 | +2 | 0 | 0 | 0 | 0 |
| Ціск | 755 | 755 | 756 | 756 | 755 | 752 | 749 | 747 | 746 | 742 | 739 | 741 | 741 | 740 | 742 | 744 | 746 | 749 | 752 |
| Вецер м/сек | 5 Ю-З | 4 З | 4 З | 5 Ю-З | 7 Ю-З | 7 Ю-З | 7 Ю-З | 5 Ю-З | 5 Ю-З | 5 Ю-З | 5 Ю | 4 З | 4 З | 4 З | 3 З | 3 З | 1 Ю-З | 3 С | 1 С |
| Вільготнасць | 92 | 93 | 87 | 89 | 89 | 87 | 74 | 83 | 94 | 93 | 93 | 91 | 91 | 91 | 89 | 92 | 93 | 87 | 70 |

## Дзень за днём

**У сярэдзіне восені айчынная эканоміка паскорыла сваё падзенне. Украіна аб'явіла спецпошліны на шэраг беларускіх тавараў у адказ на дыскрымінацыю украінскага піва і цукеркаў. Курс долара перавысіў рубеж 18 тысяч рублёў. Яшчэ амаль 15 тысяч беларусаў адправілі ў верасні ў адпачынкі за свой кошт. Не размінуліся своечасова з дзяржбюджэтам ужо каля 2500 прыватных беларускіх кампаній і фірм. Па ўсёй краіне пасля санкцый Мінгандлю гандлёвая сетка "Дабраном" закрыла 56 сваіх магазінаў. У Беларусі жанчыны сталі болей курыць, а мужчыны – меней. На Каляды і Новы года пусцяць каля 100 дадатковых цягнікоў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Турцыя.** Лідары пяці вядучых краін свету дамовіліся прадоўжыць яшчэ на паўгода санкцыі супраць Расіі, іх зняццё залежыць ад поўнай нармалізацыі сітуацыі на Украіне.

**Сірыя.** Тэрарыстаў "ІД" не ўдасца канчаткова знішчыць, як заявіў прэзідэнт ЗША Барак Абама, пакуль тут пры ўладзе будзе Б. Асад, і не пачнецца палітычнае ўрэгуляванне.

**Англія.** Эксперт Каралеўскага інстытута ваенных даследаванняў Д.Бронк заявіў, што збіты расійскі Су-24, хутчэй за ўсё, свядома парушыў паветраную прастору (у 10-ты раз) Турцыі

**Расія.** У. Пуцін папярэдзіў, што інцыдэнт са збіццём турэцкай ракетай расійскага ваеннага самалёта Су-24 будзе мець сур'ёзныя наступствы для расійска-турэцкіх адносін.

**Аўстрыя.** Эксперты Goldman Sachs спрагназавалі далейшае падзенне сусветных цэн на нафту, магчыма нават да 20$ за барэль з-за росту яе здабычы і магчымай мяккай зімы.

**ЗША.** Аэракасмічная кампанія Blue Origin правяла паспяховыя выпрабаванні першага ў свеце шматразовага ракетаносца для касмічных палётаў турыстаў на арбіту.

**Малдова.** Спецслужбы краіны выявілі і арыштавалі дзве групы з 13 узброеных прарасійскіх баевікоў, якія планавалі захоп улады, падобны па данбаскаму сцэнарыю.

**Расія.** Крэмль абурыўся, калі прэзідэнт ЗША Б. Абама заявіў, што У. Пуцін не можа прэтэндаваць на глабальнае лідарства, бо ён апусціў эканоміку сваёй краіны на самае дно.

**Аргентына.** Палітык правага толку, прыхільнік сяброўства з ЗША, а не з Расіяй, М. Морсі стаў новым прэзідэнтам краіны, хоць ён прайграў у І-м туры выбараў, ён пачне рэформы.

**Украіна.** Старшыня НАК "Нафтагаз Украіны" А. Кобалеў пацвердзіў, што краіна не баіцца спынення паставак расійскага газу і абыйдзецца без яго гэтай і наступнай зімой.

**Сірыя.** Пасля двух месяцаў расійскіх авіяўдараў армія Б.Асада змагла павялічыць сваю тэрыторыю пад кантролем урада краіны толькі на 0,4%, усяго на 120 квадратных км.

**Бразілія.** Вучоныя папярэдзілі аб экалагічнай катастрофе, якая чакае Атлантычны акіян, пасля падання туды таксічных адыходаў з ракі Рыу-Досі ў выніку абрушэння плаціны.

**Польшча.** Краіна ўвайшла ў лік васьмі самых развітых эканамічна дзяржаў Еўропы, неўзабаве апярэдзіць яшчэ адну ці дзве з іх, чакае яшчэ 80 млрд. еўра інвестыцый.

**Украіна.** Пасля адключэння ад падачы электраэнергіі да 1,9 млн. жыхароў анексіраванага Крыма Мінэнерга РФ паскорыла будаўніцтва 1-й чаргі энергамаста магутнасцю 400 МВт.

**Расія.** Былы віцэ-прэм'ер А. Кудрын заявіў, што ваенныя расходы РФ у 2016 годзе вырастуць на 3 трлн. рублёў, а вось фінансаванне медыцыны і адукацыі знізяць на 16,5 %.

*Па дадзеных розных СМІ і інтэрнэтрэсурсаў*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** На пасяджэнні ўрада Беларусі прэм'ер-міністр А. Кабякоў прызнаў катастрафічны абвал беларускага экспарту сёлета адразу на 24,6%, адмоўнае сальда складае 1,7 мільярда долараў.

**Жлобін.** На БМЗ спынілася вытворчасць сталі і труб з-за адсутнасці абаротных сродкаў на закуп нават металалому, летась страты завода склалі 63 млн. долараў, наступае калапс.

**Ліда.** Толькі з-за зніжэння курсу беларускага рубля, як паведаміў гендырэктар "Лідскага піва" А. Мікшыс, прадпрыемства страціла сёлета больш 2 мільёнаў еўра прыбытку.

**Мінск.** Прафесар эканомікі Б. Жэліба заявіў, што калі Беларусі ўдасца атрымаць крэдыты ад МВФ і Еўразійскага фонда, то яны дапамогуць нам у лепшым выпадку на працягу году.

**Брэст.** Лікёра-гарэлачны завод "Белалка" за паўгода атрымаў 10,2 млрд. рублёў страт, па звестках Мінфіна Беларусі, стратнымі сталі і астатнія спіртзаводы галіны па ўсёй краіне.

**Магілёў.** Старшыня Кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў А. Ярашук папярэдзіў, што на працягу бліжэйшага года-двух заробкі ў Беларусі ўпадуць да 200 долараў у месяц.

**Гродна.** Савет Еўропы выказаў глыбокае шкадаванне вынесеным тут двум сёлета ў Беларусі смяротным прыгаворам, РБ – адзіная ў СНД і ЕС краіна з такой мерай пакарання.

**Пінск.** Прадпрымальнікі папярэдзілі, што на рынках яны не будуць працаваць увесь студзень, многія думаюць закрыцца зусім, бо попыт на тавары ўпаў, народ збяднеў.

**Мінск.** Жонка былога главы Беларусі С. Шушкевіча нарэшце дабілася яму пенсіі па старасці крыху больш 4 млн. рублёў, ён апошнія 16 гадоў атрымоўваў 3200 руб. у месяц.

**Ратамка.** З-за няпростых адносін у сям'і і непаразумення паміж аднакласнікамі ў гарпасёлку паконччыла жыццё самагубствам вучаніца 10 класа Мінскага раённага ліцэя.

**Брэст.** У гарбальніцу шпіталізавалі сям'ю з 4-х чалавек, якія атруціліся чадным газам з-за няспраўнасці сістэмы вентыляцыі газавага катла, пацярпела і дзіця з Кобрынскага раёна.

**Мінск.** У Палацы мастацтваў забаранілі на выставе карціны мастакоў А. Марачкіна і А. Пушкіна на ўкраінскую тэматыку, у тэатры БДУ – спектакль пра Бранiслава Тарашкевіча.

**Баранавічы.** Судпакараў 50-гадовага мужчыну 7 гадамі калоніі ўзмоцненага рэжыму за выкідванне сваёй сужыцелькі з акна здымнай кватэры і пагрозу забойства.

**Мінск.** Сын арыштаванага 14 жніўня эксгендырэктара ХК "Дынама-Мінск" У. Беражкова паведаміў пра невыносныя ўмовы ўтрымання ў СІЗО для бацькі, бо ён "віну" не прызнае.

**Барысаў.** Пасля матча БАТЭ з "Байерам" пракрамлёўскі каляфутбольны дзеяч Іван Катанаеў абрушыўся з нападкамі на беларускую мову, параўнаў яе з "сабачым брэхам".

*Па дадзеных розных СМІ і інтэрнетрэсурсаў*

## Масква пайшла на саступкі дальнабойшчыкам-пратэстоўцам



■ **ТАСС**

**Дзяржздума РФ у пятніцу прыняла ў другім і ў трэцім, канчатковым, чытанні закон, які зніжае амаль у 100 разоў (з 450 тысяч да 5 тысяч расійскіх рублёў) штрафы за адсутнасць у дальнабойшчыкаў трэкераў — новых сістэм, якія адсочваюць шлях і вызначаюць памер аплаты, паведамляе "Інтэрфакс".**

«Прынятыя папраўкі таксама ўводзяць паняцце аднакратнасці штрафу: не больш за адзін штраф у суткі пры любой колькасці фіксацый парушэння. Акрамя таго, папраўкі дазваляюць постаплату замест перадаплаты», — сказаў журналістам, каментуючы ініцыятыву, першы намеснік старшыні камітэта Дзярждумы па канстытуцыйным заканадаўстве і дзяржаўным будаўніцтве Вячаслаў Лысакоў.

Згодна з законам, рух аўтамабіля, які мае дазволеную максімальную масу звыш 12 тон, па аўтамабільных дарогах агульнага карыстання федэральнага значэння без унясення платы ў кошт пакрыцця шкоды, які прычыняецца такім дарогам, караецца штрафам 5 тысяч рублёў (першапачаткова меркаваўся штраф у 450 тысяч рублёў на юрыдычных асоб).

Гэта датычыцца кіроўцаў аўтамабіляў, якія належаць замежным перавозчыкам, і ўласнікаў аўтамабіляў, якія не належаць замежным перавозчыкам.

Паўторнае ўчыненне такога адміністрацыйнага правапарушэння цягне накладанне адміністрацыйнага штрафу ў памеры 10 тысяч рублёў. Закон устанаўлівае, што памер платы ў кошт пакрыцця шкоды аўтадарогам і парадак яе спагнання вызначаюцца урадам РФ.

Лысакоў адзначыў, што «у цяперашні час кошт 1 км зніжаны урадам Расіі да 1,53 да сакавіка 2016 года, і ў камітэце спадзяюцца на пралангацыю» гэтай меры.

Нагадаем, раней у пятніцу кіроўцы вялікагрузных аўто пачалі акцыю пратэсту на Маскоўскай кальцавой аўтадарозе, у выніку чаго, па словах відавочцаў, стварылася гіганцкая пробка. Як паведамлялася, кіроўцы пратэстуюць супраць збору за праезд па федэральных трасах.

Паводле апошніх дадзеных, рух на ўчастку вонкавага боку МКАД у раёне Ленінградскай шашы, дзе дальнабойшчыкі спрабавалі зладзіць акцыю пратэсту, разблакаваны.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Па ўсёй вобласці па выхадных днях пачалі працаваць перадкалядныя ярмаркі, ёлачныя кірмашы сёлета ў Прыдзвінні пачнуць продаж лясных прыгажунь з 19 снежня.

**Ноўка.** У мясцовым РДК, а таксама на базе аблсельгасхарча і ААТ "Рудакова" прайшоў рэспубліканскі семінар-нарада па падрыхтоўцы тэхнікі да прадстаячай веснавой сяўбы.

**Полацк.** Следчы камітэт распачаў крымінальную справу супраць медыкаў, якія не знайшлі ў 2-гадовай дзяўчынкі батарэйку-таблетку, якую яна праглынула і ўпала ў кому.

**Сянно.** Новенькі школьны аўтобус МАЗ-241 на 22 месцы атрымала Студзенкаўская СШ-дзіцячы час, сюды ездзяць цяпер на заняткі дзеці з 25 населеных пунктаў раёна.

**Докшыцы.** Участковы, лейтэнант міліцыі Анатоль Казакоў, выратаваў ад гібелі жыхара вёскі Вялікія Сітцы, выцягнуў яго з хаты без прытомнасці падчас узнікшага пажару.

**Віцебск.** З-за чарговага ілжывага паведамлення аб выбуховым прыстасаванні эвакуіравалі 150 чалавек з магазіна "Еўраопт" на Маскоўскім праспекце, ніякай "бомбы" не знайшлі.

**Гарадок.** У гарпасёлку Езярышча пачалі ўзвядзенне новай сучаснай кругласутачнай АЗС "Беларуснафты" на 375 заправак за наяўны і безнаяўны разлік і з магазінам у дарогу.

**Астроўна.** Да 6 гадоў турмы пагражае работніку мясцовага лясніцтва, які разам з жыхаром Віцебска незаконна застрэлілі лася, яны добраахвотна заплацілі 54 мільёна штрафу.

**Паставы.** Падчас сямейнай спрэчкі 48-гадовая жыхарка вёскі Шчоткі кінулася ў глыбокі калодзеж каля дома і жахлівым чынам скончыла жыццё самагубствам, ідзе следства.

**Глыбокае.** Урач-фтызіятр раённай бальніцы Мар'я Януковіч стала пераможцам І раённага конкурсу маладых спецыялістаў "Сваёй прафесіяй ганарусь", які прайшоў у раённым цэнтры.

**Бешанковічы.** У парку камсамольцаў і моладзі ў райцэнтры будзе музей ваеннай тэхнікі пад адкрытым небам з 8 відаў, тут ужо ўстанавілі танк Т-80, БТР, зенітку, 2 пушкі, самаходку.

**Полацк.** Пасля выяўлення пакінутага падазронага прадмета з мясцовага аўтавакзала эвакуіравалі 100 чалавек, у Бешанковічах у той дзень эвакуіравалі людзей нават двойчы.

**Браслаў.** Яшчэ 5 буйных азёр краю зарыбій карпамі-двухгодкамі, набытым у рыбгасе "Палессе", нацпарк "Браслаўскія азёры", сёлета былі зарыблены малькамі 14 вадаёмаў.

**Орша.** Віцэ-прэзідэнт НАК Беларусі М. Рыжанкоў пазнаёміўся са спартыўнымі аб'ектамі горада, вывучыў ход узвядзення новага комплекса з лыжаролернай трасай.

**Навапалацк.** Пасля заканчэння кантрактаў адразу 8 вядучых ігракоў ФК "Нафтан" могуць пакінуць каманду ў міжсезонне, у клуба – вялікія даўгі перад многімі футбалістамі.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па дадзеных розных СМІ і інтэрнет-рэсурсаў).*

# Ядзём чужую капусту, агуркі, галубцы! А дзе ўсё нашае?

**Уладзімір Скрабатун,**
*тэкст і фота.*

Мы ледзьве не штодня чытаем у газетах, чуем з тэлевізара, бачым з інтэрнэта, што расійскія кантралюючыя органы маюць вялікія прэтэнзіі да якасці беларускай сельскагаспадарчай прадукцыі. Яна, альбо вяртаецца назад, альбо арыштоўваецца, альбо пляжырыцца бульдозерамі… Можа рускія і сапраўды знайшлі нешта ў беларускай прадукцыі тое, што не адпавядае заяўленай якасці? Спрачацца не буду! Не прысутнічаў аўтар на месцы падзеяў…

Аднак, мы бачым і наступствы дзеянняў расейскага боку: нашы прадпрыемствы працуюць на склад, работнікі – няпоўны рабочы тыдзень, затрымліваюцца заробкі…

Пачытаем загалоўкі навінаў толькі апошняга тыдня!

**“Беларуская фарэль можа трапіць пад забарону ў Расіі”.**

**“Россельгаснагляд арыштаваў на мяжы з Беларуссю аўтафуры з грушамі і арэхамі”.**

**“Расія зноў мае прэтэнзіі да беларускай мясной прадукцыі”.**

Аднак, мы нешта не чулі, каб беларускі бок развярнуў назад расійскія фуры з іх сельскагаспадарчай прадукцыяй! Бацца “старэйшага брата” ўквяліць! А што расейская прадукцыя такая ўжо бездакорная па якасці?

Месяц таму жонка прынесла 0,7 літровы слоік пашытквананай капусты марынаванай… Падумалася адразу: мо наш Глыбоцкі кансервавы завод ачуняў, альбо яшчэ са складскіх запасаў рэалізуюць. Памятаецца, даўней, набывалі падобную капусту ў 3-х літровых слоіках, смачная была, з’ядалася да рэшты.

Не! Бачу на цэтліку вытворцу – “Смоленск, Россия”. Адкрыў слоік пакаштаваць. Адзін толькі відэлец! “Жывая” соль і воцат! Не адважыўся і глынаць! Пачакаю рэакцыі сваіх дамачадцаў. Дачакаўся. – Дык гэта ж есці не магчыма! – Адна соль і воцат! Дэгустацыя скончылася для кожнага адным відэльцам! Капусту ў – вядро з адыходамі, можа курам спадабаецца, а слоік яшчэ прыдасца.

Не буду настойваць, мо так і трэба! Мабыць, такія там нормы? А на “вкус и цвет – приятелей нет!” Можа для кагосьці гэта і тут – дэлікатэс.

Тры дні таму, заходжу на “экскурсію” ў адну глыбоцкую краму ў цэнтры горада, дзе вельмі добры выбар усялякай еміны. Краму з этычных меркаванняў называць не буду, але, дакладна, гэта не “Еўраопт” і не супермаркет “Цэнтральны”.

На кожным, ці не другім цэтліку, напісаны вытворца – “Россия”. Вы падумаеце, напэўна, што там нейкія неверагодныя дэлікатэсы? Не! Рыбныя і мясныя катлеты, усялякае печыва… Маць вашу за нагу! “Голубцы домашние. Россия”!

Гэта не проста здзек над намі, гэта – эканамічная дыверсія! Вязуць з Расіі! Я не сумняваюся, што ў Глыбокім смачныя галубцы здольныя прадукаваць і Райпо, і мясакамбінат, і, нават, уяўнае прыватнае гандлёвае прадпрыемства! Нашы вытворцы працуюць няпоўны тыдзень, сядзяць без заробкаў, а нам такую ж прадукцыю – шле “старэйшы брат”.

Але апафеозам маёй “экскурсіі” стаўся візіт яшчэ ў адну краму. Зразумела, называць не буду.

*– Агуркі марынаваныя на паліцы – чыя вытворчасць? – Мо глыбоцкія?* – пытае аўтар у прадаўца.

– Напэўна малдаўскія! Зараз гляну. Ой, зманіла – в’етнамскія!

***– Няўжо? В’етнамскія! Іх жа везлі сюды сама мала 15 тысяч кіламетраў! Спачатку параходам – з В’етнама да Уладзівастока, ад Уладзівастока да Беларусі – цягніком. Ладна, былі б гэта бананы, ці іншая трапічная еміна, а тут – агуркі! Ашалець!***

Вось бачыце, спадарства, калі раптам у нас, на Беларусі, не будзе каму вырошчваць бульбу, не хвалюйцеся, паліцы не застануцца пустымі! Бульбу прывязуць нам, калі не з Польшчы, дык з В’етнама, а то й параходам з Бразіліі. І будзе яна каштаваць не даражэй, чым нашая! І хлеб будзе смачны! Рынак заўсёды шукае пустое месца! Аксіома! Нямаглыбоцкіх агуркоў на паліцах! Будуць венгерскія, малдаўскія, нават, в’етнамскія! Не знік жа кансерваваны гарошак з паліцаў крамаў пасля закрыцця Глыбоцкага кансервавага завода! Ёсць, хоць заваліся, ад іншых кансервавых заводаў Беларусі.

Як бы нічога не змянілася пасля закрыцця нашага кансервавага завода? Змянілася! Зменшыліся паступленні ў раённы бюджэт, людзі засталіся без працы і без заробкаў. Гэта значыць, зменшылася пакупная здольнасць насельніцтва. І хто ўсё гэтае “изобилие” будзе цяпер купляць? Я не супраць в’етнамскіх агуркоў, як і не супраць малдаўскіх, ці венгерскіх, але побач з імі на паліцах крамаў мусілі б стаяць і нашыя, глыбоцкія, як, зрэшты, і глыбоцкія галубцы і катлеты. Нашая дзяржава перадусім павінная стаяць на баку нашых беларускіх вытворцаў і падтрымліваць іх, бо гэта ж – нашы людзі, а не замежнікі.







**В’етнамскія кансерваваныя агуркі на паліцах глыбоцкіх крамаў.**

## Прадпрымальнік у Наваполацку 2,5 года не плаціла падатак. Узбуджана крымінальная справа

**Індывідуальны прадпрымальнік з Наваполацка 2,5 года не падавала дэкларацыі, каб пазбегнуць выплаты падаткаў, паведамляе прэс-цэнтр Камітэта дзяржкантролю.**

З траўня 2012 года па кастрычнік 2014-га жанчына закупляла ў аптовых фірмаў у Маскве абутак – на суму 1,4 млрд. рублёў. У падатковую інспекцыю давала звесткі пра тое, што з’яўляецца плательнікам фіксаванага падатку на дададзены кошт, а дакументы на набываны тавар у яе адсутнічаюць.



Аднак, супрацоўнікі фінансавай міліцыі і падатковай інспекцыі ўдакладнілі прыходныя дакументы на набыты ў Расіі абутак. Пастаўшчыкам зрабілі запыты, і яны пацвердзілі факты адгрузкі і аплату тавара.

У бюджэт не паступіла 284,4 млн. рублёў ПДВ. Узбуджана крымінальная справа па ч. 1 арт. 243 КК (Ухіленне ад выплаты падаткаў і збораў).

## Пратэрмінаваная запазычанасць па зарплаце ў лістападзе вырасла амаль у пяць разоў

На 1 снежня 2015 года пратэрмінаваная запазычанасць па зарплаце склала 241,4 млрд. рублёў, паведамляе Нацыянальны статыстычны камітэт. Гэта ў 4,6 раза больш, чым пяць месяцаў таму, – на 1 лістапада пратэрмінаваная запазычанасць па зарплаце складала 52,4 млрд. рублёў.

Варта зазначыць, што з 1 верасня па 1 кастрычніка паказчык пратэрмінаванай запазычанасці па зарплаце зменшыўся ў 9,9 раза (на 248,1 млрд. рублёў). Эксперты звязвалі гэта з прэзідэнцкімі выбарамі, якія меліся адбыцца 11 кастрычніка.

Па стане на 1 снежня пратэрмінаваную запазычанасць дапусцілі 405 арганізацый, якія былі абследаваныя (на 1 лістапада – 111).

Большаўсёарганізацыйдаўжнікоў знаходзіцца ў Мінскай вобласці – 173, іх агульная запазычанасць склала 106,7 млрд. рублёў. Далей ідуць: Віцебская вобласць – 142 (57,2 млрд.), Гродзенская – 61 (46,1 млрд.), Магілёўская – 21 (12,8 млрд.), Мінск – 5 (16,1 млрд.) і Гомельская – 3 (2,5 млрд.).

Найбольшая колькасць даўжнікоў зафіксавана ў сельскай гаспадарцы – 338 (сума доўгу – 179,7 млрд. рублёў). У будаўніцтве – 31 (19,1 млрд.), прамысловасці – 26 (38,9 млрд.).

***Марына Носава, БелаПАН.***

**Д.А. Шыльчонак,**
*фельчар-валеолаг Глыбоцкага РЦГЭ*

# Як прадухіліць абмаражэнне

Абмаражэнне – гэта парушэнне цыркуляцыі крыві ў якой-небудзь частцы цела (часцей за ўсё ў канечнасці) пад уплывам нізкай тэмпературы. Найболей часта абмаражэнне ўзнікае ўзімку, калі тэмпература навакольнага асяроддзя апускаецца ніжэй мінус 10-15 градусаў. Калі вы доўга знаходзіцеся на вуліцы, асабліва пры моцным ветры і падвышанай вільготнасці паветра, то рызыкуеце атрымаць абмаражэнне нават увесну і ўвосень пры плюсавой тэмпературы.

Выкананне некалькіх нескладаных правіл засцеражэ вас ад пераахаладжэння і абмаражэння. Апранацца ўзімку вам лепш так: сподняе адзенне павінна быць выраблена з бавоўны, паколькі яно выдатна ўбірае вільгаць; другі пласт абавязкова павінен складацца з шэрсці, якая добра сагравае і ўтрымлівае цяпло; трэці пласт – ветраахоўная вільгаценепранікальная куртка з капюшонам. Аддавайце перавагу свабоднаму і лёгкаму адзенню, паміж пластамі якога заўсёды прысутнічаюць праслойкі паветра, якія добра ўтрымліваюць цяпло. Ваш абутак павінен быць прасторны, па-над бавоўнянымі шкарпэткамі абавязкова апранайце ваўняныя. Усярэдзіне павінны ляжаць сухія вусцілкі. У халодную пару года не выходзьце на вуліцу без шапкі, шаліка і рукавіц з воданепрымальнай тканіны з мехам усярэдзіне. Перад тым, як вы збіраецеся выйсці на мароз, паешце і вазьміце з сабой тэрмас з гарачым чаем. Планучы правесці на холадзе цэлы дзень, абавязкова захапіце з сабой швэдар і запасныя шкарпэткі.

Для таго, каб пазбегнуць абмаражэння, часцяком досыць своечасова пераапрануцца ў сухое адзенне.



Падчас шпацыру, адчуўшы, што замярзаеце, як мага хутчэй ідзіце туды, дзе цяпло: у кавярню, краму, пад’езд жылога дома. Там вы сагрэецеся і, тым самым, пазбегнеце непрыемнасцяў, звязаных з абмаражэннем. Акрамя таго, падчас працяглага знаходжання на марозе перыядычна карысна з’ядаць што-небудзь каларыйнае. Ужо праз некалькі хвілін пасля прыёму ежы вы адчуеце прыемны прыліў энергіі, і вам стане цяплей. Перад выйсцем з дому зніміце з сябе ўсе металічныя ўпрыгожванні. Пярсцёнкі на пальцах робяць цяжкай натуральную цыркуляцыю крыві, а завушніцы могуць прыліпнуць да мочак вушэй і выклікаць балючыя адчуванні, аж да траўміравання далікатнай скуры. Падчас моцнага марозу ні ў якім разе не курыце на вуліцы. Па-першае, вы рызыкуеце абпаліць верхавіны лёгкіх, і, па-другое, курэнне змяншае цыркуляцыю крыві ў канечнасцях і робіць іх больш уразлівымі да холаду.

Ужыванне ж моцных спіртных напояў падчас зімовых халадоў – найпростыя шлях да абмаражэння. Алкагольнае ап’яненне характэрна тым, што выклікае ілюзію прыліва цяпла, а насамрэч, прынаўшы “на грудзі”, вы цяпло губляеце. Мала таго, вы ўжо не можаце адэкватна кантраляваць сваё самаадчуванне. Калі ж вы празмеру захопіцеся “саграваннем” алкаголем, то рызыкуеце навекі заснуць у якой-небудзь гурбе.

■ Генадзь Плавінскі

# Каханне памяці Іосіфа Корсака

Бяроза ўсім сваім характвом хоча прытуліцца да Дуба. А ён ад яе адхіліўся. Чаму? Не прымае заляцанняў Бярозы? Не! Дуб гнутка адхіліўся, каб не зацяняць яе характва. Як бы шляхетнае каханне…

Славуты сын глыбоцкай зямлі Іосіф Корсак памёр бяздзетны. Чаму? Рыцар княжацкага паходжання, багацей не дбаў пра нашчадка? Не! Легенда, што Калона на Копцеўцы стаіць на месцы смяротнай бойкі двух братоў за каханую дзяўчыну, гэта паданне, праўда, якое перадавалася з пакалення ў пакаленне. Глыбоцкая Калона паўстала на месцы юнацкай рамантычнай і трагічнай падзеі, дзе раней была ўзведзеная капліца (касцёлак), у якой маліліся за душы загінуўшага наследніка мястэчка Глыбокае па лініі Эльяша (Іллі) Корсака і пераможцы стрыечнага брата Іосіфа. Вялебны Аляксандр Івашчонак сведчыць: “Эльяш Пятровіч Корсак быў дзядзькам Іосіфа Львовіча – Леў і Эльяш былі братамі, мелі аднаго бацьку – Пятра Дзмітрыевіча Корсака, але розных матак.”



На пячатцы па лініі маці ўнізе бачны трызубец, які разам са знойдзеным у 2007 годзе кісценем на беразе ракі Ака пад Разанню, мабыць, доказ парадненняў двух славутых родаў: унукаў Рагвалодавічаў і Корсакаў.

Іосіф Корсак (1570-1643) на схіле жыцця ахвяраваў свае багацці на будаўніцтва трох Божых храмаў ў Глыбокім. Яны і сёння – яго дзеці. Гонар горада, яго адметнасць.

Кармеліты перад 200-гадовым юбілеем Іосіфа Корсака ўзвысілі на Копцеўцы побач з найпрыгажэйшым творам жыцця фундатара мемарыяльную Калону, наверсе якой мусібыць выява Маці Божай, што аплаквае намоленае многімі пакаленнямі месца. Але тут пракацілася кола пачварнай рэлігійнай вайны. Калона не была завершана ва ўсёй красе задумы архітэктара. Потым Калону аблюбавалі шэраг пакаленняў буслоў.

Успомнім і супаставім вядомыя гістарычныя падзеі сённяшняга Глыбокага ў канцы XVIII стагоддзя. Набліжаўся 1770 год, калі Іосіфу Корсаку, фундатару трох храмаў, споўніцца 200 год з дня нараджэння. У 1756-1763 гадах замест драўлянага паўстае Беразвецкі мураваны комплекс, шэдэўр еўрапейскай архітэктуры. Пасля завяршэння грандыёзнай будоўлі ў Беразвеччы пачынаецца новая.

Вялебны гісторык нашага краю Отан Гедэман паведамляе: “...Перад 1764 годам ксёндз Антоній Яшчолт пачаў будаваць ужо мураваны касцёл, але дарабіў яго толькі “да вакон” і памёр. Будоўлю ж закончыў у 1782 годзе яго наступнік, ксёндз Міхаіл Федаровіч. Гэты Касцёл у гонар Святой Тройцы меў 2 вежы...” Краязнаўца Юры Калбасіч слушна мяркуе, што касцёл Святой Тройцы ў 1782 годзе не быў завершаны па праекце, а быў закончаны толькі ў 1908 годзе (надбудаваны дзве ступені вежаў і пашыраны ўнізе). Значыць, касцёл будаваўся 144 гады, а царква Святых апосталаў Пятра і Паўла ў Беразвеччы – 7 гадкоў.

Ёсць паданне з вуснаў краязнаўцы Пятра Станіслававіча Раловіча, хай будзе пухам яму зямля. Каля 1908 года ў Глыбокім была высокая камісія з Санкт-Пецярбурга, незадаволеная, што вежы Касцёла падняты амаль да вышыні Царквы. Але касцельная ўлада так хораша прыняла гасцей, што камісія з’ехала задаволенай.

Такая ж цікавая і драматычная гісторыя Калоны. “Яе паходжанне вельмі загадкавае,” – сцвярджае Отан Гедэман.

Глыбоцкая Калона – помнік на месцы смяротнай бойкі двух братоў за каханую дзяўчыну. Гэта і ёсць паданне 400-гадовай даўніны.

Прыгажуня Калона на Копцеўцы абшарпаная вятрамі і легендамі, створаная людзьмі і бусламі, спалучае антычнасць і ўзнёсласць буслоў, ёсць сімвал каштоўнасці сям’і і жыццёвай згоды. Тут жыве і пасецца беларуская птушка бацян – у слаўным горадзе Глыбокае, на Беларусі, а зімуе на далёкім беразе Ніла і вяртаецца на радзіму.

Упрызнанні аб пашане памяці Іосіфа Корсака сведчаць:

– дуб і бяроза, створаныя прыродай;

– помнік фундатару і кампазіцыя “Ісус і самаранка”;

– памаладзеўшы і прыбраны горад Глыбокае;

– каменны крыж з уніяцкай царквы – натхняльны напамін пакаяння і прымірэння праваслаўных і католікаў. “Каб усе былі адно ...”

**P.S.** Працяг тэмы можна прачытаць у “Вольнае Глыбокае”:

– “Загадкавасць спадчыны Корсака”, 30.06.2011.

– “Таямніца роду герба Корсак”, 21.02.2013.

–“Глыбокае чувае спатканне”, 03.04.2014.

– “Разам у згодзе на роднай зямлі”, 06.02.2014.

– Сайт *westki.info*. (Ключавыя словы: Глыбоцкая Калона. Таямніца роду герба Корсак. Памяці славутых глыбачан. Разам у згодзе на роднай зямлі).










**Пячаткі-гербы Эльяша Пятровіча Корсака па лініі бацькі і маці.** *Фота Надзеі Храпавіцкай з архіва Вільні.*

■ **Марыя Баравік**, *сябра СБП*

# Пра кнігу “Пагоня за Музай” Людмілы Андзілеўкі

**Любы твор мае сілу, калі чытач не можа адарвацца ад яе або, калі стараецца адмахнуцца, бо тая ўзбуджае ў ім нейкі неспакой, страх, быццам дзьме з яе мастацкі вецер, які не гладзіць, менавіта, яго. Аднак, ці радасна ад кнігі, ці сумна, чаму б не пацікавіцца зместам?**

Я адразу прыклеілася думкай да персанажаў з таго моманту, як галоўны герой (Мужчына) “раптам рэзка падхапіўся”, і “аўтобус крутануўся “на пяце”. Далей адчуваю, што раблюся ўсмешкай на словах: “кар’ера… выпускніка (Пасла) ўзбрыкнула маладой жаробкай”. Але ніжэй знаходжу ў сабе спачуванне: жыццё героя павярнулася так, што “раптам усё – пад адхон”.

Сюжэт увабраў сучаснасць: Жанчына трапляе працаваць на базу Мужчыны, які займаецца бізнесам. Ён скупляе хаты, дамкі… Імкнецца зрабіць у іх рай, каб зарабляць прыбытак ад кліентаў – аматараў вясёлага адпачынку. Тут сапраўды збіраюцца разам так званыя сябры, паплечнікі з высокапастаўленага круга і розныя іншыя, здольныя аплачваць. А мару будаўніцтва кожны дзень спрабуюць ажыццявіць яго такія-сякія работнікі… Мужчына сабраў іх сюды з розных дарог, прырос да іх, і яны да яго. Але “ў блот” страшэнна ідзе праца. Сёння складваюць нешта, будуюць. Заўтра разбураюць – усё не так атрымліваецца: псуецца, рушыцца, гніе. Ці гэта ад пітва, ці пітво ад гэтага, і лянота, абыякавасць, бяссілле.Назіраецца разбэшчанасць. Дык чаму?..



**Людміла Андзілеўка.** *Фота vg-gazeta.by*

Чытаю… смешна, ды больш сумна. Разруха. Нядобрая вольніца. І людзі на дне. Няма, як бы, надзеі на заўтрашні дзень. Ні ў такіх наведвальнікаў, як Пасол, ні ў гэтай чарнечы разнахарактарнай. Ды ўжо, мабыць, і ў тых, хто тут во - “важныя, імпазантныя, халёныя мужчыны…у фатэлях”? Бо Жанчына ўлавіла іхнюю асцярожнасць: “вялі ледзь чутную гамонку”.

Яна часткова прояўляе сімпатыю да некаторых герояў. І да галоўнай асобы. Непрыхаваная нянавісць да нейкіх іншых выяўляецца ў яе роздуме. Жанчына мае сваю асабістую пазіцыю, дзе заўважна адценне неаспрэчнасці.

Пісьменніца дае ўсім, то спачувальныя, то з’едлівыя характарыстыкі. Малюе быт, сустрэчы, гульбы-забавы, як, напрыклад, “вышэйшы пілатаж” над шашлыкамі, які “арганізоўвае” Міша.

Загаловак твора “Пад мастом” трапна раскрывае тут ідэйную думку. “Усе мы – пад мастом”, – кажа Жанчына Сяргею. Кожны дзень (адзін за другім) выяўляе суцэльнае разбурэнне душы і ўсяго, што аператыўна спрабуе будавацца ўсімі хворымі работнікамі і самім Гаспадаром. Безнадзёга! Бо вынік на вачах.

У творы – падрабязнасці, і яны матыўна нязменныя, што крыху тармозіць жаданне чытаць далей. Аднак жа, дэталёвасць усё новая і новая, дык цягне зазірнуць: што і хто там зноў з’явіцца?..

Відавочна, што такая аповесць спісвалася з жыцця, з наяўнага асяроддзя. Аўтар (праз Жанчыну) разглядае характары, паводзіны людзей, акалічнасці распаду гаспадаркі Мужчыны (так яна яго называе ў творы, яшчэ і – Гаспадар). Тут без напругі пяра ўсё кладзецца на паперу, то камічным, то трагічным бокам. Мабыць не трэба дадумваць, фантазёрнічаць для раскрыцця ідэі. Але пісьменніца валодае пяром.

Іншы творчы строй у аб’яднанай загалоўкам “Пагоні за Музай”, дзе вобразы збіральныя.

Захапляльна пакладзены на паперу падарожныя ўспаміны ад наведання Аўстрыі - “Warum nicht?”.

Увогуле кніга напісана смела, адметным мастацкім почыркам. Яна надзённая, напорыстая, ад вачэй Людмілы Андзілеўкі, якая, безумоўна, мае права пасвойму думаць, як і чытач – успрымаць змест.

Прываблівае сціплая вокладка: на ёй, дарэчы, малюнак самой Людмілы Андзілеўкі. Жаночая хрупкая постаць у лёгкім адзенні, прадзімная снежным ветрам, пад чорным парасонам. Як бы прыкрылася смуткам сваім. У неспрыяльным надвор’і яе падарожжа. А трэба ісці.

Людміла – лятучы эмацыйны думнік. Рашучы. Замалёўвае і пэндзалем, і пяром. Яна гарачая ў парывах выказвання. Мабыць ад балючай праўды, ад творчых жаданняў, ад прагі адлюстравання і, часам, ад фантазіі. У ёй, як казаў Гоголь, “колькі розных пачуццяў!..”. Але яна – за Беларусь беларускую. І мае да пяра несумненны творчы неспакой.

І з-пад пяра: тое, што так трывожыць грахоўны свет і штурхае замоўчваць прыземную хваробу.

# Што маем – не захоўваем, а як згубім – плачам!



**Нарадамі міліцыі аддзела аховы ў начны час у бягучым годзе штосутачна правяраўся ведамасны склад вартаўнікоў у горадзе на падставе заключаных дамоў, выяўлена 21 парушэнне, з іх 2 факты п'янства на працоўным месцы (Глыбоцкі РДК – студзень, вытворчая база УП ЖКГ – люты), астатнія парушэнні – гэта адсутнасць вартаўніка на працы, або іх сон на рабочым месцы.**

■ **В. Кулакоўскі,**
*старшы інспектар ГМВСО Глыбоцкага аддзела Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь, маёр міліцыі*

Невыкананне патрабаванняў па забеспячэнню на ахоўваемых аб'ектах належнага кантрольна-прапускнога рэжыму, прыводзіць да ўчынення крадзяжоў таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў на аб'ектах АПК і іншых юрыдычных асобаў. У бягучым годзе ўчынена шэраг такіх крадзяжоў. Вось толькі некаторыя прыклады:

■ студзень – учынены крадзеж 1800 яек са склада ААТ «Глыбоцкая птушкафабрыка» шляхам падбору ключа да замка;

■ люты – учынены крадзеж трактара МТЗ 1221, які належыць ПУП «Берестадрев», маёмасць гэтага прадпрыемства вартаўніком не ахоўвалася;

■ сакавік – учынены крадзеж з крамы Глыбоцкага раённага спажывецкага таварыства ў в. Кішы, ахоўнай сігналізацыяй на момант учынення крадзяжу крама не абсталявана;

■ красавік – учынены крадзеж 765 м меднага кабеля з зернесушыльнага комплексу в. Карасі філіяла «Ломашы-агра» БМУ №3 г. Наваполацка; КЗСВ-30 вартаўніком не ахоўваецца;

■ лістапад – з камбайнаў, якія знаходзяцца на тэрыторыі майстэрняў у в. Мацюкова філіяла «Прошкава» ААТ «Глыбоцкі аграсэрвіс», украдзеныя запчасткі, тэрыторыя вартаўніком не ахоўваецца;

■ лістапад – учынены крадзеж з крамы «Кароўка» в. Ломашы філіяла «Ломашы-агра» СМУ №3 г. Наваполацка, ахоўнай сігналізацыяй крама не абсталявана.

Востра стаіць задача захаванасці сабранага ўраджаю, гаруча-змазачных матэрыялаў, ядахімікатаў і мінеральных угнаенняў, сельскагаспадарчай тэхнікі. Для правільнай арганізацыі вартаўнічай службы і ў мэтах выканання задач па ахове аб'ектаў ад супрацьпраўных замахаў работнікамі аховы арганізацый (устаноў, прадпрыемстваў), якія маюць спецыяльныя дазволы (ліцэнзіі) на права ажыццяўлення ахоўнай дзейнасці, забеспячэння асабістай і маёмаснай бяспекі наведвальнікаў і работнікаў аб'ектаў, рэкамендуем :

● узмацніць прапускны і ўнутрыаб'ектавы рэжым;

● інфармаваць наведвальнікаў ахоўнага аб'екта аб неабходнасці праявы пільнасці, у выпадках выяўлення падазроных (безгаспадарчых) прадметаў або падазроных асоб, неадкладна апавяшчаць аб дадзеных фактах работнікаў аховы арганізацыі, супрацоўнікаў аддзела ўнутраных спраў;

● правесці дадатковыя інструктажы з работнікамі аховы па мерах бяспекі і парадку дзеянняў пры выяўленні выбуховых прылад, падазроных (безгаспадарчых) і інш. прадметаў, якія прадстаўляюць (або могуць прадстаўляць) небяспеку.

Грубымі парушэннямі заканадаўства аб ліцэнзаванні, ліцэнзійных патрабаванняў і ўмоў з'яўляюцца:

■ выкананне (аказанне) не названых у ліцэнзіі работ і (або) паслуг, якія складаюць ліцэнзуемую дзейнасць;

■ парушэнне выключнага права дзяржавы на ахову аб'ектаў, якія падлягаюць у адпаведнасці з заканадаўствам абавязковай ахове Дэпартаментам аховы Міністэрства ўнутраных спраў;

■ учыненне ліцэнзіятам, яго адасобленым падраздзяленнем, у тым ліку філіялам, работнікамі ліцэнзіята дзеянняў, устаноўленых у артыкуле 10 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ахоўнай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь»;

■ выкананне работ па мантажы сродкаў і сістэм аховы без праектаў (актаў абследавання), распрацаваных ліцэнзіятамі;

■ аказанне паслуг па праектаванні, мантажы, наладцы і тэхнічнаму абслугоўванню сродкаў і сістэм аховы без заключэння пісьмовых дамоў;

■ парушэнне ўсталяванага заканадаўствам парадку і ўмоў абсталявання аб'ектаў, якія падлягаюць абавязковай ахове Дэпартаментам аховы Міністэрства ўнутраных спраў, сродкамі і сістэмамі аховы, а таксама патрабаванняў да відаў і тыпаў усталёўваных на іх сродкаў і сістэм аховы;

■ адсутнасць у работнікаў аховы службовага пасведчання і службовага жэтона (Пастанова МУС Рэспублікі Беларусь №404 ад 08.12.2010).

У адпаведнасці з Пастановай МУС Рэспублікі Беларусь №428 ад 20.12.2010 зноў прынятыя на працу работнікі аховы павінны праходзіць ацэнку ведаў не пазней за 2 месяцы з дня прыёму іх на працу пры правядзенні тэставання, пры гэтым колькасць правільных адказаў у тэстах павінна складаць не менш за 90% ад колькасці пытанняў.

# Не парушайце Правілаў палявання!

**З надыходам кастрычніка адкрыўся асенне-зімовы сезон палявання, і шмат паляўнічых у захапленні, не марудзячы, накіраваліся на паляванне.**

■ **Валерый Катовіч,** *дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Аднак, далёка не ўсе палююць законна і законнымі спосабамі. Вельмі часта, палюючы на пушнога звера: зайца, лісу, куніцу або норку, паляўнічыя маюць пры сабе кулявыя патроны і карцеч, што забаронена Правіламі і з'яўляецца парушэннем. Затрыманыя супрацоўнікамі інспекцыі грамадзяне прыцягваюцца да адміністрацыйнай адказнасці, якая прадугледжвае штраф да 30 базавых велічынь або пазбаўленне спецыяльнага права, г.зн. права палявання да 5 гадоў.

Часта паляўнічыя пры пераездзе з аднаго месца палявання ў другое не зачахляюць і не разраджаюць зброю, што з'яўляецца грубым парушэннем Правілаў палявання. Вінаватыя ў гэтым парушэнні нясуць адміністрацыйную адказнасць, бо такія пераезды з неразраджанай і не зачахлёнай зброяй могуць прывесці да трагедыі. Толькі за адзін лістапад супрацоўнікамі інспекцыі вобласці выяўлена больш за 40 грубых парушэнняў Правілаў палявання, усе вінаватыя прыцягнутыя да адказнасці.

Так, 5 снежня гэтага года супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі пры праверцы двух паляўнічых на тэрыторыі Пастаўскага раёна, якія ажыццяўлялі паляванне на зайца, падчас асабістага дагляду былі выяўлены патроны з кулямі і карцеччу, якія згодна з дзеючым заканадаўствам забароненыя для нашэння пры паляванні на зайцаў. Для чаго носяць з сабою кулі і карцеч, паляўнічыя ведаюць вельмі добра. На якую дзічыну палююць такія паляўнічыя зразумела, але ў гэты дзень здабыць буйную дзічыну ім было не наканавана. У працэсе разбору адзін з затрыманых парушальнікаў яшчэ і аказаў інспектарам непадпарадкаванне, пачаты адміністрацыйны працэс.



Здымак з сайта Дзяржаўнай інспекцыі па ахове жывёльнага і расліннага свету

Цяпер парушальнікам Правілаў палявання пагражае штраф ад 20 да 50 базавых велічынь з пазбаўленнем права палявання да 5 гадоў і канфіскацыя агнястрэльнай зброі.

У сувязі з працягам палявання на зайца неабходна яшчэ раз нагадаць тэрміны і спосабы законнага палявання.

**З 1 кастрычніка па 30 снежня** адкрылася асенне-зімовае паляванне ружэйным спосабам: загонам, з засад, з падыходу, у тым ліку з паляўнічымі сабакамі **на лася, аленя, дзіка, казулю еўрапейскую**.

**З першай суботы лістапада па апошнюю нядзелю студзеня 2016 года** дазваляецца паляванне **на зайца-беляка, зайца-русака** ружэйным спосабам з засады, з падыходу, загонам.

**З 1 верасня па 31 сакавіка** ў светлы час сутак дазваляецца здабыча **бабра, выдры**, ружэйным спосабам з засады, з падыходу.

**З першай суботы лістапада па апошнюю нядзелю студзеня** дазваляецца здабыча **куніцы лясной, каменнай, тхара лясного, норкі амерыканскай, гарнастая, ваверкі**. (У выпадку змены тэрмінаў, спосабаў палявання ўся інфармацыя будзе паведамлена дадаткова.)

Супрацоўнікі міжраённай інспекцыі пераканаўча просяць паляўнічых уважліва вывучаць і выконваць Правілы вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання, каб не стаць міжвольным іх парушальнікам.

**Аб усіх правапарушэннях Вы можаце паведаміць па тэлефонах: 2-86-70 – кругласутачна, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 МТС.**

У сувязі з адкрыццём загоннага палявання (з 1 кастрычніка) на дзікіх жывёл неабходна нагадаць, што **грамадзяне могуць праводзіць паляванне пры наяўнасці**:

■ дзяржаўнага пасведчання на права палявання;

■ карткі ўліку парушэнняў і выплаты дзяржаўнай пошліны з адзнакай аб яе выплаце альбо квітанцыяй аб яе выплаце;

■ дазволу МУС на права нашэння і захоўвання зброі, падоўжаны ў адпаведнасці з патрабаваннямі;

■ паляўнічай пуцёўкі альбо разавага дазволу на здабычу паляўнічай жывёлы і паляўнічай пуцёўкі да яго.

